Opłata pocztową
uiszczono ryczałtem

Цена асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для загранiцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр.
Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 25 — Вільня, Серада, 21-га ліпня 1926 г. — Год I.

## Сільная ўлада.

Фашысты, манархісты і рэшта чорнай сотні—як да бога, моляцца цяпер да Пілсудскага.

Есьць чаго. Захапіўшы ўладу пры помачы войска, ён ад імя сучаснай „сацыяльнай раўнавагі“, або прасьцей кажучы: ад імя абшарнікаў і капіталістаў—абяцуе, што *бізуном* будзе трымаць у парадку працоўныя масы.

Даць яму за гэта сільную ўладу, зрабіць царком, хоць пакуль-што без кароны — вось зьмест усіх паправак канстытуцыі і агітацыі правых груціровак.

Гутаркі аб дэмакратыі, якімі ў працягу 8 гадоў буржуазія пры помачы верных сваіх сяброў-пэпээсаў і іншых згоднiцкіх партыяў усыпляла народ, — хоча адкінуць яна цяпер, як непатрэбны і шкодны хлам.

Непатрэбны, бо няма ўжо ім сярод масаў веры; шкодны дзеля таго, што нельга траціць часу.

Падзеі ў Іноўрацлаву, Гостыню, Грудзёндзу, хваля забастовак, сялянскія разрухі па ўсей дзяржаве паказалі ясна, што калі ня ўзьдзець абяздоленым, галодным нявольнікам „намордніку“, дык тыя запраўды-ж пачнуць балюча кусацца...

Пры гэтакім палажэньні буржуазія не цэрамоніцца. І цяпер жыцьцё рашуча сцьвярджае тое, аб чым мы заўсёды гаварылі: канстытуцыя... права...—гэта паперкі і больш нічога! Піша іх і рве пануючая клясе, залежна ад укладу сілаў у клясавай барацьбе...

Пілсудскі зьяўляецца выразіцелем усіх гэтых імкненьняў буржуазіі. Але Пілсудскі хоча зьдзейсьніць іх, як свой уласны плян захаваньня „сацыяльнае раўнавагі“. І тут Пілсудскі перацягнуў струну: навет пакорныя ягонаму бізуну буржуазныя і згодніцкія парты „збунтаваліся“ проці Пілсудскага, і вымаганыя ўрадам зьмены канстытуцыі, якія мусілі даць Пілсудскаму „паўнату ўлады“, аказаліся крэпка абрэзанымі Соймам!

Мы ня ворагі сільнай улады, а старонь-нікі яе.

Мы адкрыта гаворым, што *пасьля* перамогі працоўных створым моцную, як сталь, *работніцка-сялянскую ўладу*, каб затрымаць зямлю для сялян, а фабрыкі—для работнікаў, каб ня „даць буржуазіі вярнуць старыя парадкі.

Сільная ўлада буржуазіі скіравана проці працуючых мас, а наша будзе—проці абшарнікаў і капіталістаў.

Буржуазія гвалтам хоча затрымаць капіталістычны лад, які давёў працоўны народ да страшэннай бяды, да голаду, да хвароб і выміраньня. Скончыўся той час калі буржуазія, хоць і дзеля сваей толькі ўласнай карысьці, разьвівала вытворчасьць. Сягодня яна ўжо нічога тварыць ня ў сілах і толькі жырує на целе працоўных. І не яна, а мы — сяляне й работнікі—збудуем новы лепшы сьвет.

Мы сучасным панам сьвету нічога ня зробім, толькі... *зраўняем іх з сабою*! Мы адбяром усё, што нам належыцца, і не дапусьцім павароту панаваньня гвалту.

І для гэтага нам патрэбна сільная ўлада—сільны сялянска-работніцкі ўрад.

## СЯЛЯНЕ і РАБОТНІКІ!

**Памятайце аб сваей радні і таварышах, што сядзяць за кратамі вастрогаў!**

**Дамагайцеся амністыі. Зьбірайце подпісы і перасылайце іх у „міжпартыйны камітэт дзеля барацьбы за амністыю для палітычных вязьняў у Польшчы“.**

**Ведайце, што толькі тады, калі шырокія масы працуючых, калі кожны з нас падасьць свой голас,—урад будзе змушаны даць амністыю.**

**Адрасуйце пісьмы на соймавы клюб Бел. Сял.-Работніцкай Грамады.**

### „Рольны Банк“—для абшарнікаў.

Дзяржаўны Рольны (Сельска - Гаспадарчы) Банк адчыніў крэтыты ў суме 9 мільёнаў злотых на штучныя гнаі. Пазыкі можна браць на 9 месяцаў. Тэарэтычна могуць браць і сяляне, але практычна, ведама-ж, зараз-жа разьбяруць ўсё абшарнікі... „Свая рука — ўладыка“, як кажуць расейцы...

## Заграніцай.

### Аб англійска-польскай змове проці СССР.

Радавая прэса рэзка нападае на англійскі ўрад за тое, што той ня спыняе проціpадавай кампаніі. Відавочным доказам гэтай кампаніі зьяўляюцца ваенныя падрыхтаваньні Польшчы ў змове дый з дапамогай Англіі... Радавыя газэты пішуць, што іхная армія гатова да абароны на выпадак вайны.

### Ці Новая вайна?

Як падае „Kur. Wil.“, ковенская прэса вельмі жыва абгаварывае справу канцэнтрацыі польскіх войск на літоўскай граніцы. Ваенная падрыхтоўка Польшчы, паводлуг літоўскіх даных—адбываецца быццам у вельмі шырокіх разьмерах.

### Дабіраюцца да ксяндзоў.

Літоўскія газэты пішуць, што ў іхным Сойме адна з левых фракцый падала праект зьмяншэньня напалавіну ксяндзоўскіх пэнсіяў.

Грошы гэтыя мелі-б быць аддадзены на крэдыт для сялян, атрымаўшых зямлю з парцэляцыі, на крэдыт самаўрадам і на асушку балот.

Было-б куды дзець і ў нас злотыя, каб гэтак абрэзаць хаця на палавіну пэнсію „айцам духоўным“, генаралам, ды высокім чыноўнікам, што атрымовываюць некалькі тысяч у месяц!

У нас аб гэтым не гавораць, але трудна спадзявацца, каб і ў Літве праект прайшоў. Буржуазія нат на гэтакія маленькія ўступкі ня пойдзе. Паны, высокія чыноўнікі, генаралы—бунтаваліся-б, а буржуазіі яны да зарэзу патрэбны: бяз іх абыйсьціся нельга!

### Правал ураду Брыян-Кайо.

17 ліпня французскі парлямант, выслухаўшы ўсе доказы Кайо і Брыяна на карысьць новага ўрадавага пляну ратаваньня французскай фінансавай гаспадаркі, большасьцю 288 проці 243 галасоў выразіў габінэту недаверые. Прэм'ер Брыян зараз жа з міністрамі паехаў да прэзыдэнта, якому падаў просьбу аб адстаўцы ўсяго габінэту.

Найцікаўней, што галоўным аратарам, забіўшым габінэт, зьяўляецца... найбліжэйшы партыйны калега Брыяна—старшыня парляманту Эрыо... Згодна з звычаямі парлямантарызму, якраз яму, Эрыо, і запрапанаваў прэзыдэнт стварыць новы ўрад.

Запраўды ж нейкі цёмны лёс вісіць над буржуазнай Францыяй: ніхто з яе найлепшых фінансістаў ня можа адратаваць яе фінансы!

Ясна, што трэба—ламаць ды зьмяняць ужо ня людзей, але—увесь лад...

### Новы спадак франка.

У сувязі з новым крызісам ураду ў Францыі пачаў ізноў спадаць франк, выклікаючы новую хвалю дарагоўлі. Перад вайной за англійскі фунт штэрлінгаў плацілі 25 франкаў, цяпер—204 фр.

### Новыя маніфэстацыі проці ката рыфэнаў.

Проці прыехаўшага ў Парыж гішпанскага дыктатара Прымо-дэ Рывэра ўзноў была зроблена маніфэстацыя. На адной з вуліц таўпа работнікаў

## З Сойму.

У тым тыдні ў Сойме і ў камісіі далей адбывалася дыскусія над праектам зьменаў Канстытуцыі і паўнамоцтваў для ўраду аж да канца 1927 году.

Найбольш цікавую прамову сказаў міністар справядлівасьці, які, трэбуючы надзвычайных паўнамоцтваў для бюракратыі, заявіў, што „час, калі трэбавалі перадусім правоў ды гарантыяў для адзінкі, мінуў. Цяпер на чало ставіцца гарантыя для грамадзкай арганізацыі (ураду й яго органаў!—Рэд.), ды яна стаецца крыніцай, з якой выплываюць усе правы і абавязкі адзінкі“... Якое самадзяржаўе бюракратыі пагражае вытварыцца пад гэтым пекным лёзунгам, ясна кожнаму... Але характэрна тое, што ўсё гэтае міністар датарнаваў першым чынам да таго, каб спыніць у Польшчы надатыкальнасьць паслоў! Зьвязаўшы паслоў, пэўне-ж не пацэрэмоняца і з простымі сьмяротнымі.

Дагэтуль у Сойме ўсё йдзе, як па маслу: чаго толькі хоча ўрад!...

У гэты панядзелак прэм. Бартэль меўся выступіць перад Соймам з доўга чаканай праграмнай прамовай. Пасьля таго мае адбыцца і трэцяе (апошняе) чытаньне праекту.

### Рашаючы мамэнт.

У панядзелак, 19 ліпня, прэм'ер Бартэль выступіў на пленуме Сойму з абшырным экспозэ. Зьмест яго падамо ў наступным нумары.

Пасьля прамовы прэм'ера і дыскусіі аб ёй адбылося галасаваньне над праектам зьменаў Канстытуцыі. Найважнейшыя пункты гэных зьменаў: арт. **2**—аб скасаваньні прапорцыянальнасьці пры выбарах у Сойм, арт. **3**—аб павышэньні веку, які дае права на ўчасьце ў выбарах, арт. **4**—аб павышэньні веку кандыдатаў у паслы і арт. **5**—аб адказнасьці дэпутатаў перад судом—**усе Соймам адкінены.**

## У Польшчы.

### ППС ня хоча бароцца за амністыю.

Чытаем у журнале „Po Wolność“ (№ 6) гэтакую заяву: „Мы, сем'і палітычных вязьняў, з'арганізавалі „Камітэт Помачы Палітычным Вязьням“ і зьвярнуліся да газэт, паміж іншых, да „Robotnika“ (орган ППС), які быццам ёсьць сацыялістычнай часопісяй, з просьбай выдрукаваць пісьмо радні вязьняў.

Ані адна газэта не памясьціла пісьма.

З прычыны гэтага мы былі прымушаны даць да некаторых газэт платную абвестку аб істнаваньні камітэту. Далі і да „Robotnika“, які прыняў і палічыў даражэй, як іншыя.

Па двух тыднях, ня бачучы ў гэтай газэце абвесткі, мы зьвярнуліся да рэдакцыі, дзе нам адказалі, што рэдактар яе не прапускае, і вярнулі грошы назад.

Пытаемся, ці ў час, калі неработніцкія газэты памяшчаюць нашы камунікаты, у рэдакцыі „Robotnika“ павінна быць унутраная цэнзура, каб аб справах палітычных вязьняў нічога не прапускаць?“.

### Страшныя абразкі.

„Воля Народу“ (№ 293) зьмяшчае пісьмо ад палітычных вязьняў, арыштаваных пасьля перавароту Пілсудскага ў Тышоўцах (Холмшчына).

„Спачатку закулі нас у кайданы, каб нельга было бараніцца, пасьля моцнымі ўдарамі кулакоў валілі ахвяры на зямлю, разувалі, перакладывалі ногі праз закутыя рукі, упіхалі палку паміж ногі, акручывалі нагамі ў верх і білі па пятах“... „закручывалі валосьсе на руку і таўклі галавой у сьцяну“.. „перахілялі галавой у ніз і адзін агент ліў у нос з чайніка каву, а другі сьціскаў рукой горла, каб ахвяра ня піла, але душылася“.

А агенты пры тым казалі „напрасна церпіш: паадбіваем табе лёгкія, адбяром здароўе, калі ня прызнаешся, то хоць выйдзеш на свабоду — памрэш“.

пачала голасна крычаць: „вон Прымо-дэ-Рывэру"! Паліцыя арыштавала на гэты раз больш як 100 людзей.

### Да румынска-баўгарскага канфлікту.

Выясьняецца, што румынска-баўгарскі канфлікт быў выкліканы гвалтоўнай „румынізацыяй" чыста баўгарскай Дабруджы, якую вэрсальскія пераможцы аддалі Румыніі.

У Дабруджы пачаліся народныя хваляваньні ў адказ на катаваньне баўгарскага насяленьня. Баўгарскі ўрад быццам зьвярнуўся да Лігі Народаў, каб ратавала паняволены народ ад гвалтаў. Румынія, вінавацючы ў-ва ўсім „баўгарскую агітацыю з-за граніцы", пастанавіла—ў змове з Грэцыяй—справакаваць Баўгарыю, каб супольнымі сіламі зрабіць над ёй расправу, пакуль там зьбярэцца ратаваць ці судзіць Ліга Народаў... Чым скончыцца канфлікт, яшчэ ня відаць. Румынскі ўрад выслаў на баўгарскую граніцу шмат новага войска.

### Няўдача гішпанская караля ў Лёндане.

Гішпанскі кароль з жонкай паехалі ў Лёндан, каб асабіста—праз караля англійскага—дабіцца падтрыманьня Англіі ў радзе вельмі важных спраў Гішпаніі. Першай справай была просьба, каб Англія ў Лізе Народаў падтрымала дамаганьне Гішпаніі сталага мейсца ў Радзе Лігі. Але Чэмбэрлен адмовіўся даваць якія-колечы абяцанкі каралю, дык няўдалая пара праехалася дарэмна!

## Выкручываецеся, паны!

У свой час мы пісалі аб ідэйным крызісе ў „Сялянскім Саюзе". Мы паказывалі на факт, што ў вочы сялянам—на публічных мітынгах — паслы з „Саюзу" гавораць адно, а пішуць у сваім органе—другое. І, здаецца, наагул спорыць аб істнаваньні адзначанага намі факту, немагчыма, бо дзеля праверкі яго даволі купіць ды ўважна прачытаць № 1 тэй жа самай „Сялянскай Нівы" й параўнаваць з апісаньнем у ёй-жа ў адным з апошніх нумароў мітынгу ў Любчы.

Вось-жа, сцьвердзіўшы стан рэчаў, мы назвалі гэта крызісам.

Паўтараем тое самае цяпер. У крытычным палажэньні знаходзяцца людзі, якія, называючы свой сьветапагляд душой сялянства, змушаны ўтаіваць яго перад вёскай, бачучы навакол варожыя адносіны. Дык, перажываючы крызіс, „сялянская" ідэалёгія пачынае пярэчыць усім сваім нядаўным прынцыпам.

Трэба сказаць больш. Сягодня правадыры „Сял. Саюзу" ня толькі баяцца адкрыта на славах выступаць перад сялянамі з сваей старой ідэалёгіяй, але і пісаць так, як пісалі раней. Відаць, голас сялян, які яны пачулі на мітынгах, навучыў іх, што палітыка цкаваньня сялян на работнікаў і замаўчываньня аб галоўным ворагу тых і другіх—не папулярна сярод мас.

Мы вітаем гэты знак разьвіцьця сьвядомасьці беларускага сялянства,—сьвядомасьці настолькі сьпелай і цьвёрдай, што перад ей, як мыльны пузыр, лопнулі ўсе пляны п. Ярэміча і К-о ды пачаўся крызіс ідэалёгіі. Але „Сялянскі Саюз", ня гледзючы на гэта, ня хоча чэсна парваць з прошлым. Ён не прызнаець сваіх абмылак, а толькі стараецца схаваць іх. Прыперты да сьцяны, — ён у № 20 і 21 свайго органу выкручываецца папросту ды робіць спробы пагадзіць увесь стары хлам з тым, як трэба пісаць цяпер, каб не скампрамітаваць сябе аканчальна.

Гэта ўжо ня крызіс, а крах „сялянскай" ідэалёгіі!

Выкруты, утаіваньне, недагаворкі — слабое аружжа. Імі можна жыць вельмі нядоўга, спэкулюючы на цемнаце найбольш адсталых элемэнтаў вёскі. Больш нічога. Гэтак будзе і з „Сялянскім Саюзам".

Дый дарэмна „Сялянскі Саюз" крыўдзіцца, што „Грамада" сочыць за кожным яго крокам. Мы будзем рабіць гэта і далей, бо лічым сваім абавязкам раскрываць вочы сялян на тое, куды маняцца вясьці іх людзі, якія абабраліся быць яго правадырамі.

У канцы артыкулу „Наша ідэолёгія" (№ 20 „Сял. Нівы") аўтар яго вінаваціць кіраўнікоў „Беларускай Справы" у тым, быццам яны... „пасылалі ў 1918 г. тэлеграмы да Вільгэльма", ды „вялі каншахты з Балаховічам і Ладновам, агентамі французскай дэфэнзывы" і г. д., а пасьля пагражае славамі: „калі гэтага будзе мала, то прыпомнім „Бел. Справе" і яе насьледнікам яшчэ аб іншых справах"... Правадыры „Сял. Саюзу", ня маючы магчымасьці спрачацца з намі на ідэйным груньце, ужываюць способу, які на юрыдычнай мове называецца **шантажом**... Сьвядомай маной аб Вільгэльме і пагрозамі жадаюць яны спыніць забойчую для іх нашу крытыку.

На такі агідны прыём мы можам адказаць толькі пагардай. Ведайце наперад, што пісаць аб вашай працы **будзем** і далей. Што-ж датычыць вашых пагроз ды шантажу, —**мы першыя трэбуем**, каб вы голасна і публічна заявілі ўсё бяз вынятку, што толькі ведаеце аб кіраўніках „Беларускай Справы".

**Грамадавец.**

## З жыцьця „Грамады".

### Арганізацыйныя справы.

У вёсцы Малыя-Князькаўцы, Лідзкае гм., Лідзага пав., 27./VI. г. г. з'арганізаваны Мала-Князікаўскі Гурток Бел. Сял.-Работ. Грамады.

У вёсцы Навасёлкі, В.-Есьмантаўскае гм., Гарадзенскага пав., 27./VI. г. г. з'арганізаваны Новасёлкаўскі Гурток Бел. Сял.-Раб. Грамады.

У вёсцы Рамэлькі, Пастаўскае гм., Пастаўскага пав., 4./VII. г. г. з'арганізаваны Рамэлеўскі Гурток Бел. Сял.-Раб. Грамады.

У м-ку Малеч, Пружанскага пав., 4./VII. г. г. з'арганізаваны Малечаўскі Гурток Бел. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы Парэччы, Беліцкае гм., Лідзкага пав., 1./VII. г. г. з'арганізаваны Парэцкі Гурток Беларуск. Сялян.-Работ. Грамады.

У м-ку Вішнева, Вішнеўскае гм., Валожынскага пав., 4./VII. г. г. з'арганізаваны Вішнеўскі Гурток Беларуск. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы Ліхасельцы, Сьвіслацкае гм., Ваўкавыскага пав., 7./VII. г. г. з'арганізаваны Ліхасельцаўскі Гурток Бел. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы Княгініна, Крывіцкае гм., Вялейскага пав., 27.VI. г. г. з'арганізаваны Княгінінскі Гурток Бел. Сялян.-Работн. Грамады.

У вёсцы Астроўску, Кухоцка-Вольскае гм., Пінскага пав., 29./VI. г. г. з'арганізаваны Астроўскі Гурток Бел. Сялян. Работ. Грамады.

У м-ку Гарадок, Беластоцкага пав., 4./VII. г. г. з'арганізаваны Гарадоцкі Гурток Бел. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы Кухчы, Кухацка-Вольскае гм., Пінскага пав., 7./VII. г. г. з'арганізаваны Кухчынскі Гурток Бел. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы Навасельле, Марачанскае гм., Пінскага пав,, 7./VII. г. г. з'арганізаваны Навасельляўскі Гурток Бел. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы Дзернякавы, Гарадоцкае гм., Беластоцкага пав., 9./VII. г. г. з'арганізаваны Дзернякоўскі Гурток Бел. Сялян.-Работ. Грамады.

У м-ку Друя, Браслаўскага пав., 11./VII. г. г. з'арганізаваны Друйскі Гурток Бел. Сялян.-Работніцкай Грамады.

У м-ку Груздава, Манькоўскае гм., Пастаўскага пав., 11./VII. г. г. з'арганізаваны Груздоўскі Гурток Бел. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы Бялавічы, Косаўскае гм., Косаўскага пав., 11 /VII. з'арганізаваны Бялавіцкі Гурток Белар. Сялян. Работ. Грамады.

У вёсцы Астрове, Старавейскае гм., Слонімскага пав., 11./VII. г. г. з'арганізаваны Астроўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы Алексічы, Дзярэчанскае гм., Слонімскага пав., 7./VII. г. г. з'арганізаваны Алексіцкі Гурток Бел. Сялян.-Работн. Грамады.

У вёсцы Мочы, Гарадэчанскае гм., Наваградзкага пав., 15 /VII. г. г. з'арганізаваны Мочаўскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У м-ку Трабы, Валожынскага пав., 12./VII. г. г. з'арганізаваны Трабскі Гурток Белар. Сялян.-Работ. Грамады.

У вёсцы Чэпелёва, Шылавіцкае гм., Слонімскага пав., 12./VII. з'арганізаваны Чэпелеўскі Гурток Бел. Сялян. Работ. Грамады.

**Усе Камітэты Гурткоў працуюць што-дня.**

## Натуральная павіннасьць.

### Дарогі ваяводзкія, павятовыя і гмінныя.

Цяпер пяройдзем да ваяводзкіх, павятовых і гмінных дарог. Дарогі гэтыя ўтрымліваюцца коштам ваяводзкіх і павятовых соймікаў і гмін. На гэтыя дарогі, апрача падаткаў грашмі, могуць назначацца, як конныя, так і пешыя рабочыя ад усяе гміны, а агульны нагляд за работаю ляжыць на павятовым Сойміку.

| Dz. Ust. № 6 Poz. 32. | Дз. У. № 6, паз. 32. |
|---|---|
| **Art. 12**. Budowa i utrzymanie dróg gminnych należy do powiatowego związku samożądowego, który je wykonywa w ramach budżetu poszczególnych gmin i z uwzględnieniem ich żądań, bądź też przekazuje je gminom do wykonania. | § **12**. Будова і ўтрыманьне гмінных дарог належыць да павятовага самаўраду, які выконвае іх у межах бюджэту паасобных гмін, прыймаючы пад увагу іх жаданьні, або перадаець выкананьне іх гмінам. |

Павятовыя і гмінныя дарогі ўтрымліваюцца на рахунак падаткаў. Гэтыя падаткі назначаюць павятовыя і гмінныя рады.

Апрача спагону грошай, гэтыя рады могуць рабіць пастановы і аб паклíканьні да гэтай работы жыхарства.

| Dz. Ust. № 6 Poz. 32. | Дз. У. № 6, паз. 32. |
|---|---|
| **Art. 29.** Dla budowy i utrzymania dróg gminnych mogą rady gminne, względnie miejskie, oprócz opłat w gotówce uchwalać obowiązkowe dla mieszkańców gmin świadczenia drogowe w robociźnie pieszej i środkach przewozowych. | § **29.** Дзеля будовы і ўтрыманьня гмінных дарог могуць гмінныя ці-то мястовыя рады—апрача аплаты грашыма — пастанавіць адбытак абавязковай для жыхараў гміны натуральнай павіннасьці пешымі рабочымі і падводамі. |

Гэтыя дарожныя павіннасьці нясуць усе жыхары гміны, якія плацяць падаткі наагул. Хто больш плаціць падаткаў, той большую адбывае павіннасьць. Гэтакі выпадак, як у Стаўпецкім п., дзе дзесяціна беднага абложана больш, чым дзесяціна багатага, г. зн.: дзе на бедных наложана больш павіннасьцей, чым на багатых,—зьяўляецца нарушэньнем закону. На гэта трэба жаліцца.

| Dz. Ust. № 6 Poz. 32. | Дз. У. № 6, паз. 32. |
|---|---|
| **Art. 30.** Do świadczeń drogowych w naturze mogą być pociągani wszyscy mieszkańcy gmin, opłacający podatki bezpośrednie, w stosunku do wysokości opłacanych przez nich podatków bezpośrednich. | § **30.** Да дарожнай павіннасьці ў натуры могуць быць паклíканы ўсе жыхары гмін, якія плоцяць беспасрэдныя падаткі, адпаведна да вышыні аплачваных імі беспасрэдных падаткаў. |

Натуральная павіннасьць на гэтыя работы можа быць заменена грашыма.

| Dz. Ust. № 6 Poz. 32. | Дз. У. № 6, паз. 32. |
|---|---|
| **Art. 31.** Świadczenia drogowe w naturze może gmina na zasadzie uchwały rady gminnej, względnie miejskiej, zatwierdzonej przez samorządową władzę nadzorczą, zastąpić opłatą w wysokości, pokrywającej koszty najmu robocizny pieszej lub środków przewozowych. | § **31**. Дарожную павіннасьць у натуры гміна на падставе пастановы гміннай рады або мястовай, зацьверджанай нагляднай самаўрадовай уладай, можа замяніць аплатай, пакрываючай кошты найму на пешую работу або падвод. |

Пры будове дарогі могуць патрэбаваць ад бясконных выканаць пэўную пешую работу, як: насыпка зямлі, рассыпка па дарозе і г. д., а ад маючых коні—падвозкі матэр'ялу. На бясконнага ня могуць налажыць падвойнай павіннасьці.

Калі ў загадзе сказана падвязьці камень, або пясок, то адміністрацыя павінна паказаць, дзе яго ўзяць. Нікога нельга змусіць вазіць свой уласны матэр'ял.

| Dz. Ust. № 6 Poz. 32. | Дз. У. № 6, паз. 32. |
|---|---|
| **Art. 32**. Świadczenia drogowe w naturze mogą polegać: 1) na odrobieniu pewnej liczby dni roboczych pieszych lub dostarczeniu środków przewozowych na czas określony, albo 2) na wykonaniu pewnej ilości roboty lub dostawy materjałów. | § **32**. Дарожная павіннасьць у натуры можа прадстаўляцца: 1) ў адробцы пэўнай колькасьці пешых дзён, ці дастаўцы падвод на азначаны час, або 2) ў выкананьні пэўнай колькасьці работы, ці дастаўкі матэр'ялу. |
| Do dostarczenia środków przewozowych mogą być pociągnięci tylko pasiadacze środków przewozowych (podwód, samochodów, traktorów i t. p.). | Да дастаўкі падвод могуць быць прыцягнены толькі ўласьнікі падвод (вазоў, аўтамабіляў, трактараў і г. д.). |

Якая дарога дзяржаўная, а якая—мяйсцовая, ведама ў гміне.

| | |
|---|---|
| **Art. 36**. Uchwały co do ustalenia sieci dróg powiatowych i gminnych powezmą powiatowe związki samorządowe i rady gminne wiejskie, względnie miejskie, w ciagu roku od dnia wejścia w życie ustawy niniejszej. | § **36**. Пастановы аб азначэньні сеткі павятовых і гмінных дарог зробяць павятовыя самаўрады і гмінныя рады, або мястовыя, у працягу году ад дня ўваходу ў жыцьцё гэтага ўставу. |

### Аплата працы.

Як было ўжо сказана, за рамонт дзяржаўных дарог плаціць дзяржава. Калі-ж дзяржава даручае выканаць гэтую работу самаураду, то перадае і грошы на гэта. Значыць, павінны вам плаціць. Перадача можа адбыцца толькі са згоды тае ўстановы, якая прыймае работу.

| Dz. Ust. № 6. Poz. 32. | Дз. У. № 6, паз. 32. |
|---|---|
| **Art. 10** Budowę i utrzymanie dróg państwowych wykonywa Ministerstwo Robót Publicznych bądź przez własne organy, bądź też przekazuje te zadania związkom samożądowym wraz z odpowiedniemi funduszami po uprzedniem porozumieniu się z wymienionemi związkami. | § **10.** Будову і ўтрыманьне публічных дарог выконвае Міністэрства Публічных Работ, ці-то праз уласныя органы, ці аддаючы гэта самаўрадам разам з адпаведнымі грашыма, паразумеўшыся перш з гэтым самаўрадам. |

# Вялікі мітынг Грамады.

(М. Лунна Горадзенскага павету).

У нашым мястэчку адбыўся 14 ліпня с. г. вялікі мітынг Белар. Сялянска-Работніцкае Грамады. Аб дню мітынгу абвешчана было раней і людзей сабралася больш за паўтары тысячы. З прамовай на мітынгу выступіў пасол Павал Валошын. Зьмест прамовы пасла адбіўся ў прынятай прысутнымі пры гучных воплесках ніжэй паданай рэзалюцыі.

„Выслухаўшы прамову дэпутата Валошына з Соймавага Клюбу Грамады на мітынгу ў Лунне 14. VII. 26 г., мы, прысутныя на мітынгу, пастанавілі:

1. Дамагацца поўнае амністыі для ўсіх палітычных вязьняў, якія вялі барацьбу за працоўныя масы і нацыянальнае вызваленьне; адначасова дамагацца скасаваньня кары сьмерці і скасаваньня палявых (даразных) судоў.

2. Дамагацца запраўднае роўнапраўнасьці для ўсіх нацыянальнасьцяў; дамагацца права на самавызначэньне для народаў Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны.

3. Дамагацца безадкладнага выданьня закону аб перадачы ўсяе зямлі беззямельнаму і малазямельнаму сялянству бяз выкупу і сплаты.

4. Дамагацца ўвядзеньня работніцкага кантролю над прамысловасьцю; выяўляем нязломную волю да ўтрыманьня 8-мі гадзіннага дня працы і ўсіх сацыяльных здабыткаў работніцкае клясы.

6. Дамагацца безадкладнае рэгістрацыі ўсіх безработных і выдаваньня ім 100% запамогі.

7. Дамагацца скасаваньня асадніцтва і безадкладнага спыненьня грашавых дапамогаў асаднікам са скарбу Дзяржавы.

8. Дамагацца ўтварэньня Сялянска-Работніцкага Ураду.

**Пятрок з-пад Лунны.**

# Работніцкае жыцьцё.

× **Забастоўка ў Беластоку.** Стаяць далей усе валакняныя фабрыкі. Работнікі трэбуюць падвышкі заработнай платы на 35 проц.

× **Забастоўка ў Езёрне.** 7-мы тыдзень бастуюць тут работнікі. Управа фабрыкі трэбуе рэдукцыі 150 чалавек і аб падвышцы заработнай платы згаджаецца гаварыць пасьля павароту да працы. На сходзе 14 г. м. работнікі пастанавілі вясьці барацьбу далей.

× **Ашуканства, якія рабіць можна.** Апошнімі днямі прыехала з памор'я да Міністра Унутраных Спраў дэлегацыя бастуючых работнікаў.

У сваім мэморыяле заяўляюць яны, што магістраты, якія пад націскам забастоўкі згадзіліся —і афіцыяльна перад Міністрам працы пацьвярдзілі гэта—на падвышку заработнай платы і прыняцьце ўсіх работнікаў назад,—на месцы катэгорычна адмовіліся ад данага слова. Замест ўсіх — прыймалі яны толькі 50 проц. работнікаў; замест падвышкі—узялі 25 проц. зьніжку.

Забастоўка трывае далей.

Пан міністар абяцаў паразумецца з ашуканцамі.

### III. Koszty budowy i utszymania dróg

**Art. 19.** Koszty budowy i utrzymania dróg państwowych ponosi Skarb Państwa. O ile w myśl art. 10 ustawy niniejszej budowa i utrzymanie dróg państwowych powierzone zostaną wojewódzkiemu lub powiatowemu związkowi samorządowemu, wówczas Ministerstwo Robót Publicznych przekaże pomienion. związkom samorządowym fundusze, na ten cel przeznaczone.

Budowa i utrzymanie dróg wojewódzkich i powiatowych dokonywa się z funduszów wojewódzkiego, względnie powiatowcgo związku samorządowego. Fundusze te tworzą się ze [illegible]dzieł ogólno samożądo[illegible]ch, bądź też z opłat specjalnych na ten cel przeznaczonych, a uchwalonych przez wojewódzkie, względnie powiatowe, związki samorządowe.

Budowa i utrzymanie dród gminnych dokonywa się na koszt gminy na podstawie uchwały rady gminnej lub miejskiej.

### III. Кошты будовы і ўтрыманьня дарог.

**§ 19.** Кошты будовы і ўтрыманьня дзяржаўных дарог аплачывае скарб Дзяржавы. Калі-ж паводле § 10 гэтага ўставу будова і ўтрыманьне дзяржаўных дарог перадаецца ваяводзкаму або павятоваму самаўраду, тады Міністэрства Публічн. Работ перадасьць гэтаму самаўраду вызначаныя на гэта грошы.

Будова і ўтрыманьне ваяводзкіх і павятовых дарог выконваецца коштам ваяводзкага або павятовага самаўраду. Капітал на гэта творыцца з агульна-самаўрадавых крыніц, або з аплат, спэцыяльна на гэтую мэту вызначаных пастановаю ваяводзкага або павятовага самаўраду.

Будова і ўтрыманьне гмінных дарог выконваецца коштам гміны на падставе пастановы гміннай або мястовай рады.

**Пасол Юры Сабалеўскі.**

(Канец у чародным нумары).

× **Ахвяры Інаўрацлаўскай бойні.** Двум падстрэленым паліцыянтамі работнікам аднялі ў бальніцы ногі. Хто цяпер карміцімець гэтых інвалідаў?!

× **Дамагаючымся хлеба—вастрог.** У Любліне адбыўся суд над 23 безработнымі. Віна іх заключалася ў тым, што супольна з іншымі дамагаліся перад магістратам хлеба і працы. Няшчасьце, — што якраз іх схапіла пры гэтым паліцыя. Прыгаварам суда адзін з іх атрымаў два гады турмы, адзін $1\frac{1}{2}$, адзінаццаць на 6 месяцаў, 7 па 2-3 месяцы. Толькі некаторым залічылі сьледчы арышт.

× **Маніфэстацыя ў судзе.** Як паведамляе „Robotnik" (№ 193), у Варшаве 15 г. м. разглядалася справа 9 камуністаў. Абвінавачаныя 15 месяцаў сядзяць у прэвэнцыйным арышце. Першая судовая расправа была вызначана на май і адложана з прычыны таго, што не зьявілася некалькі сьведкаў (—паліцыянтаў і канфідэнтаў). 14 ліпня сьведкі ўзноў не зьявіліся і справа ўзноў была адложана. Адвакаты дамагаліся звальненьня пад залог 2 абвінавачаных, якія у вастрозе цяжка захварэлі (адзін мае 60 гадоў), але суд не згадзіўся на гэта, хаця пракурор даў сваю згоду. У той момант адзін з камуністаў ударыў кулаком у стол і пачаў гаварыць, што суд ня мае адвагі разглядаць іх справу і дзеля таго гноіць у прэвэнцыйным арышце.

Знаходзячаяся на салі публіка падняла крык: „пусьцеце нашых мужоў!", „мае дзеці дохнуць з голаду!" і г. д.

Паліцыя выгнала прысутных на вуліцу, арыштаваўшы 4 чалавекі. Пры гэтым не абыйшлося бяз біцьця.

# ХРОНІКА.

**Перамога школ „меншасьцяў".** Як ведама, абсалютна беззаконны цыркуляр былага міністра асьветы Грабскага аб прымусовым выкладаньні ў няпольскіх гімназіях агульнае гісторыі й геаграфіі **папольску** выклікаў дружны адпор усіх „меншасьцяў". Ні адна гімназія ня споўніла гэтага дамаганьня, груба ламаючага правы нац. меншасьцяй, забясьпечаныя польскімі законамі. Барацьба проці цыркуляку дружна вялася ўсімі нацыянальнасьцямі, якія крыўдзіў цыркуляр. Дружна йшлі рука ў руку беларусы, украінцы, жыды і літвіны.

Цяпер барацьба скончылася—перамогай „меншасьцяў": урад узяў гэны скандальны цыркуляр назад. Гэтак у гімназіях „меншасьцяў" надалей павінны быць выкладаны папольску: польская мова й літэратура, гісторыя Польшчы і геаграфія Польшчы. Усе другія прадметы—у роднай мове.

**Дамагаюцца амністыі.** 18-га г. м. адбылася ў Вільні вялікае веча прафэсіянальных саюзаў у справе „Касы Хворых". Прысутная ў салі паліцыя не пазволіла аднаму з прамоўцаў гаварыць і паставіць рэзалюцыю ў справе звальненьня палітычных вязьняў. Падняўся страшэнны шум і крык. Учасьнікі заявілі, што ўсе трэбуюць амністыі і прыймаюць рэзалюцыю, хаця паліцыя і не дала яе прачытаць.

Выступаў на вечы і пасол Сялянска-Работніцкай Грамады—Мятла, якога работнікі бурна віталі. З тае прычыны, што паліцыя ўвесь час дамагалася ад старшыні пазбаўленьня слова пасла, які, гаворачы аб амністыі, нарушае парадак дня, — сабраныя патрэбавалі закрыцьця мітынгу і адчыненьня новага — пасломм Мятлою.

Пасьля кароткай прамовы апошняга паліцыя гвалтам зачыніла веча.

**Надпісы на сьценах дамоў.** Раніцай 17 г. м. на сьценах дамоў Вільні паявіліся надпісы ў беларускай мове: „звольніце палітычных вязьняў"!

Як відаць, панамалёвывала іх уначы падпольле.

Ужо а 10 гадзіне раніцай надпісы паліцыя пасьцірала.

**Суд над безработнымі.** 16 г. м. адбыўся ў Вільні суд над трыма ўчасьнікамі маніфэстацыяў безработных, якія былі ў лютым сёлетняга году. Сьведкі — агенты дэфэнзывы паказалі, што абвінавачаныя Ю. Сырэйка, С. Букат і І. Паменскі ў гутарцы з другімі безработнымі востра крытыкавалі ўрад (каторы пасьля Пілсудскі разагнаў, як урад злодзеяў!) ды прыхільна адзываліся аб СССР.

За гэтую „вывротовую" работу, прытым яшчэ не даказаную, засудзілі Сырэйку—на год крэпасьці, а Буката—на 5 месяцаў. Паменскага—звольнілі.

**Культурных сіл прыбывае.** Моладзь беларуская, якая паехала ў Прагу чэскую вучыцца ў вышэйшых школах, пачынае ўжо варочацца да краю з дыплёмамі. Першыя ластаўкі — Янка Станкевіч і Ігнат Дварчанін, якія атрымалі тытул доктара філялёгіі. Станкевіч напісаў дыплёмную працу аб „Аль Кітабе" (магамэтанская „сьвятая кніга", пісаная пабеларуску арабскімі літэрамі), а Дварчанін—аб Фр. Скарыне.

**Спраставаньне.** У сувязі з надрукаванай у № 19 „Беларускае Справы" заметкай аб тым, што быццам „ведамы" Мамонька езьдзіў на вёску „зганяць дэлегатаў" на зьезд Павлюкевіча, — наш інфарматар просіць адзначыць, што ён памыліўся адносна да асобы: разам з другім агентам „доктара" ехаў не Мамонька, а гр. Мацэлі.

**Народныя грошы — для асаднікаў.** Міністэрства Зямельных Рэформ прызнала асаднікам у межах былай „Сярэдняй Літвы" пазычкі. У іншых часьцях Беларусі пазычка ўжо раней ім дадзена.

**Вотпускаў на палявыя работы ня будзе!** Ваенны міністар абвясьціў, што сёлета звальняць жаўнераў са службы на час палявых работ ня будуць. Гэта на малалюдных сялянскіх гаспадарках адаб'ецца вельмі блага, бо шмат у каго ня будзе патрэбных да збору ўраджаю рук.

# Вечная памяць...

(Вёска Ясюкі, Пастаўскай гм.).

Пераглянь уважна сягодня першую лепшую газэту і знойдзеш амаль у кожным номары заметкі аб самагубстве. Опісы гавораць за сябе: „маладая швачка, ня маючы змогі знайсьці працы,— скочыла ў раку; галадаючы безработны павесіўся на сваім паясе; паліцыя знайшла труп чалавека, памершага, як відаць, ад голаду" і так без канца...

Або: „на рагу вул. Рымарскай і Банкавай плошчадзі (Варшава) нагла (?) захварэла 27-летняя Яніна Чартакоўская, безработная. Хвароба— голад і агульнае аслабленьне"...

І ў нашай ваколіцы выпадкі самагубства зрабіліся вельмі частымі. Вось адна з гэтых трагедый:

Нейкі час у маёнтку Крыкалы, Дунілавіцкае гміны, уласнасьці абшарніка Аскеркі, — служыў пастухом Янка Шамовіч.

Быў ён сямейны, меў пяцёра дзяцей, і жонку, ды тая нядаўна памерла. Аддаўшы трое дзяцей на службу, — пакінуў ён Крыкалы і пачаў пасьвіць скаціну ў вёсцы Ясюкі, Пастаўскае гм. і павету.

Жыў, ведама, як усе сяляне, як тая скаціна, каторую пільнаваў,—але і то нядоўга.

У часе вялікай вайны, калі буржуазія выгнала народы забіваць сябе ўзаемна,—ён быў атручаны газамі і пачаў аж цяпер сьлепнуць ад гэтага.

Пачуўшы пагрозу галоднае сьмерці, Шамовіч забраў сваіх дзяцей — сына 6 гадоў і дачку 4-х ды кінуўся ў возера.

Праз некалькі гадзін тры выцягненыя трупы, ляжалі на зялёнай траве пры возеры. Сонца ласкава, без пагарды для сьмярдзючага мужыка сьвяціла на іх, хвалі на возеры штосьці шапталі....

Паліцыя занялася імі, забрала людзям з вочаў...

Вечная памяць Вам—бязьвінныя ахвяры вялікае сацыяльнае крыўды! **К—р.**

**Цікавая чутка.** Газэты падалі чутку аб тым, быццам пад м. Бярэсьцем ведамы амэрыканскі „аўтамабільны кароль" Форд мае залажыць фабрыку сваіх аўтамабіляў. Гэта была-б першая фабрыка аўтамабіляў у Беларусі.

**Масавае нішчэньне лясоў.** Навет „Rzeczpospolita" абураецца на імкненьне абшарнікаў Заходняе Беларусі выцягнуць з сваіх маёнткаў чым-больш грошы, не аглядаючыся на заўтрашні дзень. „Rzeczpospolita" падае факт, што ў віленскі лясны ўрад за час ад 1-га студзеня да 15-га ліпня с. г. пададзена 200 просьб абшарнікаў аб дазвол высячы іх лясы.

Ня верыць, відаць, наша буржуазія ў доўгае сваё ў нас панаваньне!..

**Падвышка штэмплёвых аплат.** Ад 16 г. м. ўсе штэмплёвыя аплаты падвышаны на 10 проц. Гэта значыць, што, калі раней плацілася напр. 2 зл. — цяпер трэба будзе—2 зл. 20 грошы.

**Ці Талпыга й Шольц вернуцца да нас?** „Dz. Wil." паведамляе, што скампрамітаваныя і папаўшыя пад суд (адзін дык навет засуджаны) слаўныя віленскія паліцыянты п. п. Шольц і Талпыга, скарыстаўшы з эры „маральнай санацыі" ў Польшчы, робяць у Варшаве стараньні, каб ім вярнуцца назад — на мілыя „Крэсы", ды вясьці далей іх „карысную дзеяльнасьць".

Пэўна ж, гэтыя недасуджаныя паліцыянты хутчэй дачакаюцца амністыі, як палітычныя вязьні ў Польшчы!

**Пажар у м-ку Ліпнішкі.** А 2 гадзіне ўночы з 15-га на 16-га ліпня ад невядомай, пакуль-што, прычыны выбухнуў пажар у м-ку Ліпнішкі, Лідзкага пав. З прычыны стаяўшай доўгі час сухой пагоды, цеснага забудаваньня мястэчка, неадпаведна падрыхтаванай пажарнай каманды і позьняга начнога часу, калі ўжо ўсе спалі і ня здолалі ў свой час лекалізаваць пажар, ахвяраю агню за якія $2\frac{1}{2}$ гадзіны сталіся 54 жылыя дамы і 7 гумнаў. Пагарэла шмат дробнае жывёлы, хатнія рэчы і людзей, вопратка, бялізна. Людзі апынуліся бяз даху над галавой, а некаторыя і бяз сродкаў да жыцьця.

Паслы з Грамады, як мы чулі, клапоцяцца перад урадам аб безадкладнай дапамозе пагарэльцам і аб выдачы ім бясплатна або па льготных цэнах будаўлянага матар'ялу.

**Афіцыяльны курс грошы на 20-га ліпня.** Даляр — 9 зл. 13 гр. Залаты рубель — 4 зл. 71 грошы.

20. VII. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 9,15. Чырвонец 45 зл.

## „O ZGROZO, WOŁAJĄCA O POMSTĘ DO BOGA".

Газэта „Słowo", орган мяйсцовых князёў, графаў і іншых гэрбовых ды не гэрбовых абшарнікаў, паведамляе чытачоў у карэспанэнцыі з Вялейкі (№ 104) аб страшных рэчах, якія там дзеюцца.

Слухайце толькі... запраўды сьвет становіцца дагары нагамі!..

Дырэктар дзяржаўнай польскай гімназіі ў Вялейцы... „гаворыць з інтэрасантамі-сялянамі пабеларуску".

Дырэктар „выпісывае ў школьную бібліятэку некалькі беларускіх газэт".

Дырэктар „пазволіў у будынку школы ўстроіць прадстаўленьне праезднаму украінскаму тэатру".

# Міжнародавы канал праз Палесьсе.

(Карэспандэнцыя з Піншчыны).

У мінулым тыдні вадою праз Пінск з Кобрыня да Радавай граніцы праехала міжнародавая камісія (ці, як некаторыя казалі: „Ліга народаў“!) з прадстаўнікоў Заходня-Эўрапэйскіх Дзяржаў — Францыі, Англіі, Бэльгіі, Даніі й іншых, — усяго аж 20 чалавек, якая мела на мэце аглядзець водны шлях з Балтыцкага мора ў Чорнае.

Гэтым шляхам на малым параходзе й цяпер можна праз Буг, Каралеўскі Канал і Прыпяць праехаць з Віслы ў Дняпро, але Камісія мае паглыбіць і пашырыць яго так, каб маглі праходзіць тут навет марскія караблі й такім парадкам -без перагрузак пераплываць кароткай дарогай з Балтыцкага ў Чорнае мора.

Ведама, што цяперашняя польская дзяржава мае грошы толькі на паліцыю, турмы ды войны; пракапаць-жа такі шырокі канал на некалькі сот вёрст яна ня мае змогі. Для гэтага буржуазія розных краёў хоча злучыцца ў хаўрус ды зрабіць на гэтым інтэрас.

Каналам пасьля заканчэньня работ яны будуць мець права карыстацца і зваць яго будуць „Міжнародавым Каналам“.

Пры капаньні гэтага каналу найбольш працы прыпадзе на Палесьсе, бо ў Вісьле і Дняпры й так многа вады, а тут на Палесьсі рэчкі вузкія й плыткія, але многа вады па балотах, дык яе трэба будзе пры помачы шлюзаў выкарыстаць так, каб яе хапала для вялікага каналу.

Калі гэта будзе, то мо' прыпадзе і на долю паляшука—беларуса зарабіць рыдлёўкаю крыху на соль і газу. Мела-б гэта значэньне і пасьля для цэлага Палесься. **Скалько.**

---

Дырэктар, нарэшце, у рэфэраце аб польскім тэатры адважыўся сказаць, што артысты „Reduty“—дылетанты і ня маюць здольнасьцей... Справа ясна, як Божы дзень: „wywrotowiec“.

Ня дзіва, што зубр прыпамінае праз газэту пану дырэтару Вялейскай гімназіі, „што ён знаходзіцца ў Польшчы, а не ў Савецкай Беларусі“. Ды гэта яшчэ ня ўсе яго грахі. Дырэктар — бязбожнік. Калі ён залуецца на вучня, дык так проста і кажа: „ты толькі молішся і дурэеш“!..

Пабожны панок, які любіць бліжніх і жыве з гора і працы іх, лічыў-бы найвялікшым шчасьцем у сваім жыцьці пацалаваць сутану, ці бот ксяндзу, а той—на рэлігію парываецца, ды час, страчаны на малітву, раўнуе з лодарствам.

Вось да чаго мы дашлі!

Моцна каталіцкі і патрыятычны карэспандэнт лічыць сваім абавязкам давясьці да ведама ўсіх інстанцый апісаны факт і паставіць сваю прапазіцыю, канчаючуюся славамі:

„Ня можа чалавек, якога ніхто не шануе (?), быць кіраўніком дзяржаўнае гімназіі і выхоўваць моладзь“.

Калі сучасныя польскія школы, гвалтам насаджаныя ў нас, выхоўваюць моладзь у дзікай ненавісьці да працуючых мас і нацыянальных меншасьцей, калі там усяўладна пануюць чорныя сутаны,—дык кожнае адступленьне ад гэтага — запраўды ж „zgroza“. Калі, як выключэньне, пападзе на кіраўнічую пасаду туды іншы чалавек, — дык яго мамэнтальна адтуль выгрызуць.

Ці не задумаецца пасьля гэтага аб сваей працы дзеля „чужых багоў“ пан дырэктар Любіч-Маеўскі, які, здаецца (—яшчэ адна „zgroza“!) па свайму паходжаньню зьяўляецца беларусам, толькі—адыйшоў сваіх?

**Л.**

---

# Карэспандэнцыі.

### Руйнуюць вёску.

(Слоя, Сакольскага павету).

Пілсудскі, аб'яднаўшыся з абшарнікамі, яшчэ больш прыціснуў падаткамі вёску. Цешацца паны: 760 мільёнаў незаплачаных імі падаткаў урад не спаганяе, а накладывае затое ўсё новыя на мужыка ды ліцытуе, пры помачы сэквэстратараў, бяз усякага міласэрдзя сялянскую гаспадарку. Голад і хваробы затое ў нас паношацца. Хлеба ўжо даўно ня маем, бяруць цяпер скаціну і вопратку—дык будзем есьці адну траву без акрасы і хадзіць голымі.

Пакуль лета—вытрываем, а што зімой?

Вёска наша з усей Шудзялоўскай гміны—самая бедная, але якое дзела сэквэстратарам? Загадалі ім браць—дык яны і бяруць.

18/VI ўначы да Шудзялова прыехалі на аўтамабілі 15 паліцыянтаў з Саколкі з сэквэстратарам, войтам гміны, ды мясцовым пастарункам.

Нараніцы накінуліся на вёску. У солтыса забралі карову, у іншых авечак.

Скаціна разьбеглася, дык ганялі і лавілі яе аж да вечара. Толькі некалькі чалавек здалелі адкупіцца; рэшта ня мае чым, дык прапалі каровы і авечкі! **Галюн.**

### Бязрогая скаціна.

(м. Гарадок, Беластоцкага павету).

Сын тутэйшага дзяка Сасноўскага не абміне ніводнага чалавека, называючага сябе беларусам, каб не ўбасьці яго сваім тупым лобом. Вось дык дзікая ягадка! Бацька яго дзярэ з мужыкоў-беларусаў 40—50 зл. за шлюб ды корміць сынка, а гэты пеніцца, калі пачуе слова „беларус“.

Нам усё роўна, кім мы нарадзіліся. Жылі-б у Францыі, гаварылі-б па-француску, француская сонца б давала нам сьвятло і цяпло,—былі б французамі.

Як ня злуй, дзякаўская дзетка, лобом проці ражна не папрэш, ды каб ты быў ня так дурны,—ведаў бы, што і перці ня трэба!

Усё роўна, ці наша мова „простая“, ці „крывая“: гаворыць на ёй народ і будзе гаварыць! Будзе змагацца далей проці ўсякага нацыянальнага ўціску, бо баліць ёй, таксама як і кожны іншы.

**Гарадоцкі Кмець.**

### Сьцеражыцеся правакатараў!

(в. Раўкі, гм. Скідэльскае, пав. Горадзенскага).

У апошніх часох ува ўсіх кутках Гарадзеншчыны паявілася многа правакатараў (сышчыкі дык тыя пастаянна жывуць у кожнай вёсцы). І ў нашы Раўкі 16 VI. с. г. завітаў якісь валакіта, выдаваючы сябе за „мэханіка“ ад швальных машын. Быў галодны; нашы суседзі, зьлітаваўшыся над ім, пакармілі і далі добрую пасьцел, — думаючы, што гэта—бедны чалавек, бяз працы. Але як воўка ні кармі, ён усёроўна ў лес глядзіць! На другі дзень гэты „мэханік“, пасьнедаўшы, стаў шукаць працы па сваёй „спэцыяльнасьці“.—Спаткаўшы жыхара гэтае вёскі Юрку Лабаня, стаў пытацца аб яго палажэньні. Лабань, будучы наіўным, расказаў „мэханіку“ ўсе свае балячкі,—бо'ж, узяўшы пад увагу яго беларускую мову, палічыў „мэханіка“ сваім чалавекам. Але сталася тое, — чаго найменш спадяваўся Лабань! На трэцьці дзень завітала паліцыя і пашлі — вобыск, пратаколы і арышт, што канчаецца ў нас часта мукамі....

**Марусін.**

### Вось тут і жыві.

(гм. Райцы, Наваградзкага павету).

Хаця дарожныя падаткі мы плацім вялікія, але правіць дарогі на сваей і панскай зямлі, выганяюць нас бясплатна.

3/VII 26 г. загадалі нам з коньмі вазіць пясок на панскую дарогу, якая ляжыць паміж палямі абшарніка Барташэвіча і Сьцяпурінскага.

Сяляне, сьпешна выгнаныя солтысам па загаду дарожнага майстра, з вёсак Яцьвезі, Валеўкі і Мондзіна, няўсьпелі, а некаторыя і саўсім ня мелі чаго ўзяць коням (сам то перацярпіць якнебудзь бяз ежы, бо гэта ўжо не пяршыня!). Дык коні іх падалі ад гарачыні і змучэньня, ня маючы чым пасілкавацца.

А паны пахаджаюць каля працуючых сялян, каб каторы ня пусьціў каня на выган і тым не зрабіў ім шкоды. Як адыйшлі яны на хвіліну (пэўне на абед), двое Хлапцоў з вёскі Яцьвезі хутка распраглі коні ды пусьцілі пахадзіць на панскую мяжу. Угледзіў гэта пан, прыбег з двума парабкамі, забраў коні, павёў у хлеў, аблаяў сялян і сказаў, што не аддасьць коней, пакуль кажды не заплаціць па пяць злотых кары.

Ну і жыві тут, не паедзь—кару заплаціш, а паедзь—зноў трэба плаціць!

**Адзін з рабочых.**

### „Паўлінка“ на вёсцы.

(в. Запольле, Пачапоўскай гм., Наваградзкага пав.).

Таксама, як летась, і ў гэтым годзе нашы вясковыя хлопцы ладзілі спэктакль. На трэці дзень Вялікадня гулялі „Паўлінку“ Я. Купалы і „Заручыны Паўлінкі“ Ф. Аляхновіча. Ужо за некалькі гадзін да прадстаўленьня каля будынку, дзе меў адбыцца спэктакль, сабралася маса публікі. Але... але няма яшчэ з Наваградку пазваленьня, а разам з ім і адказнага гаспадара спэктаклю!

Прыходзіць пятая гадзіна, калі павінен пачацца спэктакль, прыходзіць шостая і сёмая, з публікі шмат хто зьбірацца да хаты, бо папрыходзілі здалёк. Але раптам вось нехта крычыць: едуць, едуць! Прывязьлі пазваленьне!

Публіка валіць у будынак, уваходжу і я. Зразу кідаецца ў вочы сцэна, над сцэнаю ў зелені вялікі патрэт Янкі Купалы, а пад ім на квяцістай паперы надпіс „... будзе ўнукаў панаваньне там, дзе сягоньня плача дзед!“ Заслона з радзюг вырабу нашых дзяўчат; сьцены прыбраны ў зелень; на сярэдзіне лаўкі з дошчак, наперадзі крэслы. Граюць вясковыя музыкі на скрыпцы і гармоніку.

Згулялі досьць добра, уражаньне ад спэктаклю вялікае, песьні і прыпеўкі Лявоніхі пяюць навет малыя дзеці.

Добрае дзела зрабіла наша моладзь.

Трэба, аднак, сказаць, што, калі ў нас пачынаецца якая работа, то зараз вылазяць з сваіх цёмных кутоў усякія совы і кажаны ды становяцца перашкодаю. Так і тут: перш-на-перш, каб дастаць пазваленьне з Наваградзкага Староства на спэктакль,—дык запраўды трэба мець цярплівасьць „хама“! Нейкі там ёсьць пан ці „гаспадін“ Зубов, дык з яго зубоў гэтае пазваленьне рві хоць абцугамі. Досыць сказаць, што, каб дастаць дазвол, гаспадару ў Навагрудак за 23 вярсты давялося наведацца аж 5 (пяць) разоў, і то дастаў толькі ў дзень спэктаклю.

Другі кажан—дык гэта наш поп Кастусь Савіч.—Як толькі даведаўся, што ладзіцца спэктакль, дык раптам хапіла яго за пячонку і жоўць разам. Адкрыта ў царкве кляў, праклінаў і дакляроўваў пекла ўсім тым, хто ладзіў, спэктакль і хто на яго пойдзе.

Людзі ў нас з каждым годам разумнеюць і што раз, то менш слухаюць папоў, а сваё дзела робяць. **Марцін Хвіга.**

### Стральцы.

(Пінкавічы, Пінскага павету).

Абшарнікі, паліцыянты, чыноўнікі і паны пазваляюць сабе на ўсялякія дзікія выхадкі.

Жыве ў нашай вёсцы надлясьнічы Уладыслаў Корэыва, дом якога адным бокам упіраецца ў балота, дзе расьце толькі чарот.

На гэтае неагароджанае балота 6 ліпня ўлезьлі 2 сьвіньні ўдавы У. Бязручка.

Што-ж, здаецца, трэба было-б іх сагнаць, калі лясьнічаму шкода чароту, і справа скончана!

Наш панок, аднак, любіць забаўляцца: падстрэліў ён сьвіней, хоць у ўдавы ў хаце бяда, і страта для яе гэта вельмі вялікая.

Калі Бязручка пайшла дамагацца адшкадаваньня, лясьнічы, які тут уважае сябе „крэсовым“ царком, проста гэтак і заявіў: „і вас усіх бальшавікоў пастраляю, як гэтых сьвіней!“

Справа пайшла ў суд, ды слабая надзея ў удавы на пакрыцьце яе шкоды.

А няхай-бы мужык падстрэліў што-небудзь панскае, або пагразіў расстрэлам пану надлясьнічаму?—Гніў бы ён у турме даўно за абразу начальства, або „wywrotowe“імкненьні, калі мо' не за „дзяржаўную здраду“! **Паляшук.**

---

# З Радавае Беларусі.

### Да пяцігодзьдзя Белар. Дзярж. Унівэрсытэту.

У кастрычніку г. г. спаўняецца 5-ая гадавіна істнаваньня Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Сьвята юбілею будзе праведзена ў агульна-рэспубліканскім маштабе. Да юбілею выйдзе з друку гісторыя Белар. Дзярж. Унівэр. праф. Пічэты ў беларускай і расейскай мовах.

### „Навука і навуковыя працаўнікі Б.С.С.Р.“.

Цэнтр. Бюро навуковых працаўнікоў Б.С.Р.Р. падрыхтоўвае да друку справачнік „Навука і навуковыя працаўнікі БСРР“. У рэдкалегію зборніка ўвайшлі праф. Вальфсон, Друшчыц і Ліпец.

### Спажывецкая каапэрацыя ў Полацкай Акрузе.

Спажывецкая каапэрацыя ў акрузе шпарка разьвіваецца, а разам з гэтым расьце і лік каапэраванага насельніцтва. Так, на 1-га кастрычніка 1925 году нізавая сетка спажывецкай каапэрацыі налічвала 13.702 пайшчыкаў (было каапэравана 25 проц. сялянскіх гаспадарак), а на 1 га мая сёл. году лік пайшчыкаў дасягнуў 18.104, ці каапэравана 35 проц. усіх сялянскіх гаспадарак акругі.

Акруговы саюз спаж. каапэрацыі з прыбыткаў леташняга году вызначыў на каапэраваньне беднаты 1500 руб., а з прыбыткаў сёл. году—5.500 руб.; апроч таго, нізавая сетка, з свайго боку, на тую-ж патрэбу вызначыла 2.000 рублёў.

Па пастанове каапэрацыйных арганізацый уся сыстэма спажыв. каапэрацыі на каапэраваньне беднаты павінна адлічыць 10 проц. ад чыстага прыбытку. Падрахоўваючы, што нізавая сетка спажыв. каапэрацыі сёлета атрымае 50—60 тысяч руб. прыбытку, у фонд каапэраваньня беднаты яшчэ прыбавіцца 3—4 тыс. руб.

---

# Паштовая скрынка.

**Андрэю Яковічу.** Вы пытаецеся, „што рабіць Вам, калі раней упісаліся былі Вы сябром Незалежнае сялянскае партыі (członkiem Niezależnej partji chłopskiej), а што цяпер, азнаёміўшыся з праграмай Белар. Сялянска Работніцкае Грамады, хочаце перайсьці ў Грамаду, але сумляваецеся ў тым, ці добра гэта будзе, ці „парадачна“ гэта рабіць?“.

Адказ наш можа быць на гэта толькі адзін: Грамада ёсьць партыя краёвая, тэрыторыяльная, абыймаючая сабою ўсе заходня-беларускія землі, і паскольку Вы ўважаеце сябе за беларуса і змагара за лепшую долю працуючых масаў, ды жывяцё на абшарах этнаграфічна-беларускіх, дык зусім зразумела, што Вам трэба быць у Грамадзе. Сумленьне Вашае можа быць чыстым: уперад належалі да Niez. part. chł., бо ня ведалі аб Грамадзе; а цяпер прыходзіце туды, куды й належыць. Навет былыя Вашыя партыйныя сябры ня маюць права папракнуць Вас у гэтым. Пераход Ваш будзе і „добрым“ і „парадачным“.

---



---

Адказны-Рэдактар: **С. Макулін.** Друкарня **Н. Левін і Сын,** Вільня, Нямецкая 22. Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**